# Праграма ці заява?

### ЧЫТАЧЫ АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРАГРАМЕ БССР ПА СТАБІЛІЗАЦЫІ ЭКАНОМІКІ І САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА

Падрыхтаваны Саветам Міністраў БССР дакумент па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва назваць дзяржаўнай праграмай нельга, а толькі чарговай дэкларацыяй ці заявай урада. Ён паўтарае тэзісна ўжо вядомыя Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі, сумесную заяву Прэзідэнта СССР і кіраўнікоў вышэйшых дзяржаўных органаў саюзных рэспублік аб неадкладных мерах па стабілізацыі абстаноўкі ў краіне і пераадоленню крызісу. Дзяржаўная ж праграма павінна базіравацца не на дэкларацыях, а на сістэме эканамічных разлікаў.

Ва ўрадавай заяве няма шырокамаштабных мер надзвычайнага характару, якія ахоплівалі б:

1) глыбокі структурны манеўр па насычэнню спажывецкага рынку прамысловымі і харчовымі таварамі;

2) падрыхтоўку і перападрыхтоўку на базе вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў спецыялістаў для работы ва ўмовах рыначнай эканомікі;

3) лібералізацыю ўнутраных цэн з мэтай вызначэння рэальнага кошту дзяржмаёмасці пры яе раздзяржаўленні і прыватызацыі;

4) неадкладнае прывядзенне ў кратную адпаведнасць з рознічнымі цэнамі пасля 2 красавіка г. г. аплаты працы рабочых, калгаснікаў і служачых.

У праграме таксама не прадугледжваецца стварэння моцнага матывацыйнага механізма, накіраванага на ўсямерную актывізацыю працоўных калектываў, павышэнне эфектыўнасці вытворчасці на аснове спалучэння асабістых, калектыўных і агульнанародных інтарэсаў, самастойнасці калектываў з жорсткай эканамічнай адказнасцю; не знаходзяць адлюстравання меры супраць калектыўнага эгаізму, які ўзмацняецца; няма дакладнай арыентацыі на задзейнічанне інтарэсаў розных слаёў працоўных. Асабліва востра стаіць пытанне эканамічных узаемаадносін з сялянамі. Увогуле, каб дакладна вызначыць напрамкі работы, трэба знайсці адказы на пэўныя пытанні па кожнай сацыяльнай групе.

У праграме, на жаль, не ўпамінаюцца такія асноўныя праблемы, як павелічэнне нацыянальнага даходу, зніжэнне сабекошту прадукцыі, выкарыстанне абаротных сродкаў і г. д.

Трэба даць адказ і на пытанне, чаму ў ходзе перабудовы і эканамічнай рэформы выйгрыш атрымалі новыя прадпрымальніцкія слаі і дзялкі ценявой эканомікі, а ў цяжкім становішчы апынуліся рабочыя, большая частка працаўнікоў вёскі, інтэлігенцыя. Дарэчы, у гэтым адна з галоўных прычын прабуксоўкі перабудовы.

Пераход да рынку ў нас звязаны з працэсам драблення капіталу. Эвалюцыя ж рынку і яго сацыяльная функцыя — наадварот, у яго канцэнтрацыі. Таму вельмі важна знайсці аптымальную рысу, ніжэй якой драбленне капіталу не павінна ісці. Інакш зноў «до основанья...», а потым будзем праходзіць шлях першапачатковага накаплення капіталу, што суправаджаецца самай бязлітаснай эксплуатацыяй.

У праграме трэба было б вызначыць надзвычайныя меры па фінансаваму аздараўленню і ўмацаванню грашовага абарачэння, скарачэнню расходаў бюджэту і павелічэнню яго даходаў. Ключавой праблемай у гэтым раздзеле павінна быць забеспячэнне таварна-грашовай збалансаванасці, умацаванне рубля, дасягненне яго стабільнасці і ператварэнне ў вымяральнік рэальных эканамічных працэсаў. Толькі ва ўмовах збалансаванай эканомікі найбольш поўна можа праяўляцца дзеянне эканамічных законаў.

Павінен быць таксама прадугледжаны комплекс процііінфляцыйных мер, перакрыты ўсе каналы паступлення лішніх грошай у абарачэнне.

Крэдытны механізм таксама павінен функцыяніраваць у адпаведнасці з эканамічнымі законамі. Аднак у праграме гэтыя працэсы намечана рэгуляваць адміністрацыйным шляхам. Неабходна канкрэтна прапрацаваць праблемы ўтварэння і выкарыстання пазыковага фонду, маючы на ўвазе, што часова свабодныя грашовыя сродкі як у наяўнай, так і безнаяўнай формах, акумулюемыя банкамі і выкарыстоўваемыя імі як крэдытны рэсурс, у значнай меры з'яўляюцца пустымі паперкамі, і яны не могуць уцягвацца ў абарачэнне, паколькі ўзмацняюць разбалансаванасць эканомікі.

Разам з тым пажадана, каб праграмы антыкрызіснага характару былі выпрацаваны ў кожным працоўным калектыве, інакш і рэспубліканская павісне ў паветры. Небяспека ж такая рэальна існуе, бо адсутнічаюць дакладныя механізмы рэалізацыі яе асноўных палажэнняў. Напрыклад, калі гавараць пра занятасць, адсутнічае галоўнае — механізм стварэння новых рабочых месц.

Мэтазгодна падтрымаць патрабаванні прафсаюзаў аб адмене палажэння аб утрыманні аднаго працэнта ад зарплаты ў Пенсіённы фонд, таму што гэты падатак бярэцца з усіх катэгорый працуючых, а грошы ідуць на надбаўкі да пенсій, размер якіх у многіх пенсіянераў стаў у 2—3 разы вышэйшы, чым узровень зарплаты ў нізка- і сярэднеаплатных работнікаў. Сказанае датычыць і 5-працэнтнага падатку з продажаў.

Павелічэнне размераў ускоснага падаткаабкладання праз лібералізацыю цэн больш за ўсё б'е па нізка- і сярэднеаплатных катэгорыях насельніцтва. Трэба пераходзіць да павышэння ролі прамога і прагрэсіўнага падаткаабкладання даходаў насельніцтва — гэты від падаткаў павінен быць прэвалюючым сярод крыніц фарміравання даходаў бюджэту. Для гэтага ўзровень аплаты павінен рэзка ўзрасці, а прыбытак прадпрыемстваў скарацiцца.

Адна з праблем, якая патрабуе вывучэння, — эканамічныя паводзіны мас у перыяд крызісных праяўленняў, інфляцыйных працэсаў.

**Л. ДАВЫДЗЕНКА,**
**доктар эканамічных навук, загадчык кафедры Інстытута паліталогіі і сацыяльнага кіравання КПБ.**



Усім маладым у прыклад праца ветэрана саўгаса «Гайна» Лагойскага раёна Яўгеніі Мікалаеўны ЖАЛЯНІНАЙ. Трыццаць гадоў назад прыйшла яна ў невялічкі калектыў жывёлаводаў мясцовай свінафермы. З таго часу адбылося шмат перамен: больш сучаснай стала вытворчасць, значна вырасла пагалоўе, новыя людзі прыйшлі ў саўгасны «цэх» жывёлагадоўлі. Як і раней, плённа і добрасумленна працуе Яўгенія Мікалаеўна. Справу жывёлавода выбрала сабе і дачка Валянціна.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

# ЗАВЯДЗІЦЕ НА МЯНЕ СПРАВУ

## Пісьмо з каментарыем

Больш як паўгода назад мяне па сутнасці прымусілі звольніцца з ранейшага месца работы. Раней працаваў у Смілавічах дырэктарам невялікага гарбарнага завода. Цяпер езджу ў Мінск, на новае месца работы. Між іншым, заканчваю інстытут па спецыяльнасці, звязанай з ранейшай работай, але ці варта — цяпер жа, на новым месцы, я вельмі далёкі ад гэтай спецыяльнасці.

Аднак чаму так здарылася?

Летам мінулага года мной былі выяўлены злоўжыванні з боку галоўнага інжынера завода К. Гаплачова. У прыватнасці, намячалася рэвізія на заводзе, і, калі К. Гаплачову стала пра гэта вядома, па яго распараджэнню былі афармлены фіктыўныя накладныя на адну з партый скуртавару. Тавар быў «чужы», іншага завода, і што цікава — яго аператыўна падкінулі на наш склад. Але цяпер выходзіла, што нібыта ён быў наш — маўляў, вярнуў спажывец. К. Гаплачоў такім чынам замятаў сляды, утойваў нястачу. Справа ў тым, што прадукцыя наша — вельмі дэфіцытная, за ёю асабліва «палююць» кааператывы. Зрэшты, мы мелі справу і з кааператывамі. Але ж для іх дзейнічаў каэфіцыент — даводзілася плаціць за наш тавар у некалькі разоў даражэй, чым плацілі дзяржаўныя прадпрыемствы. Вось тут, як кажуць, і зарыты сабака. Можна ж, скажам, аформіць тавар (па дакументах) дзяржаўнаму кліенту, а на самай справе аддаць яго кааператыву... Думаю, далей не трэба тлумачыць, што да чаго, дарэчы, неаднаразовыя факты падобных маніпуляцый рэвізіяй выяўляліся.

Карацей кажучы, я аддаў загад аб звальненні К. Гаплачова, падключыў следчыя органы... А ў выніку звольніўся сам, бо на мяне быў аказаны наймацнейшы прэсінг з боку кіраўніцтва аб'яднання «Бальшавік», у якое ўваходзіць завод. Ну, а К. Гаплачоў выскачыў з гэтай гісторыі з лёгкай вымовай. Па ўсім відаць, у аб'яднанні не надта зацікаўлены ў раздуванні гэтай гісторыі, больш таго — некаму гэта вельмі не выгадна было, таму менавіта я і апынуўся за бортам. Пытанне, чаму па выніках не адной, а нават трох рэвізій, якія ўсе прыйшлі да адзінага вываду аб махінацыях са скуртаварам, не прымаецца пэўных мер, па сутнасці так і павісла ў паветры, не цікавіць яно нікога ні ў аб'яднанні, ні ў міністэрстве.

Следства, у сваю чаргу, таксама не спяшаецца. Назіраецца нават адваротны працэс: за незаконныя аперацыі летась была звольнена галоўны бухгалтар Смілавіцкага завода Т. Захаранка, цяпер жа яна зноў з'явілася ў бухгалтэрыі...

Але чаму я ўсё ж і цяпер, пасля свайго звальнення (так сказаць, па ўласнаму жаданню) варушу гэту гісторыю?

Смілавічы — невялікі гарадок, многія ведаюць адзін аднаго, і, напэўна, нямала ў каго склалася думка, што я і вінаваты ў выяўленых на заводзе злоўжываннях (вось дык грымаса лёсу — сам жа заварыў усю кашу з расследаваннем). Аднак у такім разе завядзіце на мяне справу. Тым больш, што і я аднойчы міжволі быў уцягнуты ў незаконную здзелку — па распараджэнню з аб'яднання адправіў тавар па сумніцельнаму адрасу. Праўда, наконт няпэўнасці адраса давedaўся пазней...

**А. КАСМАЧОЎ.**

### Ад рэдакцыі:

А. Касмачоў прынёс у рэдакцыю ўжо некалькі падобных пісьмаў. Наш карэспандэнт раней пабываў у следчым аддзеле Мінскага абласнога УУС, які завёў справу аб злоўжываннях на Смілавіцкім гарбарным заводзе. Там крыху прыадкрылі заслону над гэтай справай, намякнулі, што А. Касмачоў, напэўна, сапраўды, ахвяра абставін, а таксама паабяцалі: маўляў, пацярпіце які месяц, мы як след раскруцім усё...

Паўтараем, мінуў не адзін месяц. Як сведчыць А. Касмачоў, справа не рухаецца з месца, ёю ўвогуле не займаюцца. Але ж ці варта цягнуць, тым больш, калі, як можна зразумець, пад падазрэннем сумленны чалавек?

Між іншым, уся гэта справа выклікае цікавасць і з іншага боку. Нагадаем пра розныя цэны на скуртавар, ды і на іншую сыравіну, для кааператываў і дзяржаўных прадпрыемстваў і цвёрда засвоім: на глебе такой «сістэмы мер» заўсёды квітнее крымінал. Наша выратаванне ад падобных маніпуляцый і спраў толькі ў рынку, які не прызнае ні для каго ніякіх выключэнняў і льгот, перад якім усе роўныя. Прынамсі, рух да рынку як быццам пачаўся, і Закон аб прадпрыемствах з'явіўся, які ўсе іх ставіць у аднолькавыя ўмовы, але, як засведчылі ва ўпраўленні цэн Дзяржэканомплана БССР, «сістэма мер» тая ж...

# Палітычная сістэма СССР: ад манаполіі да плюралізму

## 2. Асноўныя партыі саюзнага ўзроўню: колькасць, арганізацыя, састаў

### Праблемы тэорыі

Цяпер на палітычнай арэне краіны дзейнічае прыкладна дваццаць партый і грамадска-палітычных арганізацый, якія прэтэндуюць на агульнасаюзны статус. Да іх ліку мэтазгодна адносіць і тыя партыі РСФСР, якія маюць устойлівыя сувязі з блізкімі ім палітычнымі суб'ектамі ў іншых рэспубліках.

Колькасць большасці суб'ектаў палітычных адносін хістаецца ад некалькіх соцень (СП, ЛДП, Партыя ісламскага адраджэння) да некалькіх тысяч (МРП, СДПР, РПР). Лідэры некаторых з іх сцвярджаюць, што колькасны састаў іх арганізацый — дзесяткі тысяч чалавек. Напрыклад, М. Траўкін, старшыня ДПР, заявіў у ходзе 1-га з'езда партыі, які адбыўся ў Маскве 1—2 снежня 1990 года, што ў яго арганізацыі 25 тысяч членаў партыі (з партбілетамі) і да 80 тысяч спачуваючых. ДПР мае, паводле слоў свайго старшыні, каля 500 гарадскіх і сельскіх раённых арганізацый ва ўсіх рэгіёнах Расіі.

Зразумела, што ўстанавіць рэальную колькасць абсалютнай большасці суб'ектаў палітычнай сістэмы нашага грамадства проста не ўяўляецца магчымым. Па-першае, таму, што колькасць фіксуецца, як правіла, на аснове заяў лідэраў гэтых арганізацый. А яны, як паказвае практыка, імкнуцца ў гэтым плане да перабольшвання. Па-другое, многія навастворaныя палітычныя партыі не вядуць дакладнага ўліку сваіх членаў. Гэта асабліва характэрна для так званых «партыйных рухаў», якія прызнаюць не толькі індывідуальнае, але і калектыўнае членства. Па-трэцяе, адзначаны шматлікія выпадкі двайнога і нават трайнога членства: гэта наглядаецца не толькі сярод радавых членаў партый, але і на ўзроўні кіруючых органаў.

Характэрны прыклад няпэўнасці колькаснага саставу новых палітычных партый—РПР, якая да сярэдзіны лістапада мінулага года была «Дэмакратычнай платформай (па-за КПСС)». Вясной, напярэдадні XXVIII з'езда КПСС, кіраўнікі Дэмплатформы ў адным з інтэрв'ю сцвярджалі, што на яе пазіцыях прыкладна 35—40 працэнтаў членаў КПСС (па самых сціплых падліках, 7—8 мільёнаў чалавек). Да гэтага часу невядомыя ні методыка падліку, ні нейкія яго крыніцы. Як вядома, у ходзе XXVIII з'езда гэта платформа раскалолася. Праз некалькі месяцаў лідэры часткі Дэмплатформы ў час Маскоўскай міжрэгіянальнай канферэнцыі гэтай групы (15—16 кастрычніка 1990 года) сцвярджалі, што ў цэнтральных абласцях Расіі (Маскоўскі рэгіён) погляды Дэмплатформы (па-за КПСС) падзяляюць да 10 тысяч чалавек. Колькасць патэнцыяльных прыхільнікаў, па іх ацэнках, набліжалася да 100 тысяч. Праз месяц, 16 лістапада, на адной з прэс-канферэнцый лідэры платформы заяўлялі, што да яе прыцягнута прыкладна 15 тысяч чалавек. А праз 2 дні ў інтэрв'ю для радыё ў час работы Устаноўчага з'езда РПР, якая ўтварылася на базе часткі Дэмплатформы, В. Лысенка, адзін з трох сустаршынь новай партыі, сцвярджаў, што ў ёй 20 тысяч чалавек. І на тым жа з'ездзе РПР некаторыя лідэры СДПР (А. Абаленскі, А. Румянцаў) прапанавалі пакарыстацца часовымі партбілетамі сацыял - дэмакратаў, аддрукаванымі ў колькасці 50 тысяч штук. Раней яны сцвярджалі, што ў іх партыі каля 35 тысяч чалавек. Такім чынам, можна меркаваць, што колькасць абедзвюх партый менш чым 50 тысяч чалавек. І становіцца відавочным, што зыходная колькасць членаў гэтых партый — РПР і СДПР — яўна завышаная.

Інакш кажучы, улічваючы неадназначную ацэнку колькаснага саставу новых палітычных партый іх лідэрамі і акрэсленую тэндэнцыю да яго завышэння, можна гаварыць аб колькасці членаў той або іншай партыі толькі вельмі і вельмі прыблізна. Да таго ж, неабходна мець на ўвазе, што некаторыя навастворaныя палітычныя арганізацыі не рэкамендуюць сваім членам афішыраваць удзел у іх. Вось вельмі характэрнае палажэнне са статутам Расійскага саюза «Шчыт», які складаецца ў асноўным з ваеннаслужачых, ваеннаабавязаных і членаў іх сем'яў. У дакуменце сказана, што член саюза мае права «захаваць у тайне сваю прыналежнасць да саюза». А таму немагчыма ні абвергнуць, ні пацвердзіць заяву сустаршыні «Шчыта» В. Уражцава аб тым, што саюз «аб'ядноўвае цяпер 20 тысяч чалавек, мае звыш 500 пярвічных арганізацый, якія дзейнічаюць у гарнізонах, на караблях і сярод членаў сем'яў ваеннаслужачых». І далей: «У нашых радах звыш 60 народных дэпутатаў СССР, РСФСР, а таксама краявых і абласных Саветаў... У нас ёсць камуністы, члены Дэмакратычнай партыі Расіі, іншых партый, і гэта не перашкаджае рабоце саюза» («Аргументы и факты», 1990, № 50).

Цяжка меркаваць, перашкаджае гэта ці не рабоце саюза, але прынамсі адзін вельмі сур'ёзны вывад са сказанага вышэй зрабіць неабходна: узнікла тайная палітычная арганізацыя ваеннаслужачых, арыентаваная па сваіх асноўных палітычных мэтах на блок «Дэмакратычная Расія»...

Дарэчы, лідэры ДПР, РПР, РХДР, выступаючы на словах, як і ўсе «дэмакраты», за дэпалітызацыю і дэпартызацыю праваахоўных органаў, Савецкай Арміі, прадпрыемстваў і ўстаноў, паралельна спрабуюць ствараць свае пярвічныя арганізацыі і па вытворчаму прынцыпу. Інакш кажучы, у камуністаў не павінна быць ніякіх ілюзій: лідэры гэтых партый імкнуцца не дэпалітызаваць тыя ж праваахоўныя органы, а зрабіць іх палітычную і ідэалагічную пераарыентацыю.

Праблема двайнога членства ў новых палітычных арганізацыях у поўнай меры адносіцца і да такіх лідэраў «дэмакратаў», як Б. Ельцын, Г. Папоў, Ю. Афанасьеў, А. Сабчак, С. Станкевіч. Пералічаныя асобы, здаўшы партбілеты КПСС (хто да, хто ў ходзе, хто пасля XXVIII з'езда), так і не вызначыліся са сваёй партыйнасцю: ні ў адну з новых палітычных партый яны пакуль што не ўступілі. Тым не менш іх лічаць «сваімі» некалькі з гэтых партый. Гэта, дарэчы, не дробязі, а дастаткова сур'ёзны момант. Справа не толькі ў рэальнай вазе, аўтарытэце гэтых асоб у асяроддзі «дэмакратаў», а і ў тым, што ўсе яны — народныя дэпутаты СССР. Таму некаторыя партыі, што называецца, агулам залічваюць іх у свой састаў, падвойваючы і нават патройваючы колькасць «сваіх» дэпутатаў.

«Момант ісціны» для большасці навастворaных палітычных партый, якія прэтэндуюць на ўсесаюзны маштаб дзейнасці, настаў пасля 1 студзеня 1991 года, калі ўступіў у дзеянне Закон СССР «Аб грамадскіх аб'яднаннях». Для гэтых партый, як вядома, устаноўлена мінімальная квота колькасці — 5 тысяч чалавек. Прычым гаворка ідзе не аб «мёртвых душах», а аб жывых людзях, якія павінны будуць указаць свае дамашнія адрасы і пацвердзіць членства ў той або іншай партыі. Уяўляецца, што для многіх з іх будзе немагчыма пераадолець, прынамсі з першага заходу, гэты колькасны парог. Ёсць падставы меркаваць, што многія партыі, якія не прайшлі рэгістрацыю, будуць дзейнічаць явачным парадкам або, што таксама не выключана, аб'яднаюцца з іншымі, блізкімі ім па духу.

Сёння можна гаварыць аб двух асноўных відах, тыпах новых палітычных партый з пункту гледжання іх арганізацыі. Гэта, па-першае, партыі авангарднага тыпу. Па-другое, партыі-рухі.

Найбольш яркай прадстаўніцай партый першага тыпу з'яўляецца «траўкінская» ДПР, якая функцыяніруе на прынцыпах дэмакратычнага цэнтралізму, мае жорсткую дысцыпліну, прызнае галоўным чынам індывідуальнае членства і г. д. М. Траўкін, будуючы партыю такога тыпу, зыходзіць з таго, што галоўнага палітычнага апанента — КПСС — можна перамагчы толькі ў тым выпадку, калі ёй будзе процістаяць аналагічная па прынцыпах арганізацыі «некамуністычная» партыя.

Прапанаваны М. Траўкіным варыянт партыйнага будаўніцтва далёка не адназначна ўспрымаецца многімі «дэмакратамі», якія прывыклі, так сказаць, да «дэмакратычнай вольніцы». У цэлым палітыка М. Траўкіна нярэдка ацэньваецца імі як «неабальшавізм», «фюрэрства» і г. д. Так, на Устаноўчым з'ездзе ДПР, які праходзіў у маі 1990 года ў Маскве, у многім іменна з-за гэтага адбыўся раскол.

Большасць іншых палітычных партый (апрача «Шчыта») фарміруюцца не як партыі авангарднага тыпу, а як партыі-рухі. Асноўным у іх дзейнасці з'яўляецца прынцып «дэмакратычнага адзінства»: для ніжэйстаячых арганізацый абавязковыя толькі тыя рашэнні, за якія яны галасавалі, астатнія носяць рэкамендацыйны характар. У многіх з гэтых партый таксама дапускаецца калектыўнае членства, якое, з аднаго боку, безумоўна, іх аслабляе, але з другога—дазваляе аб'яднаць пад адным «дахам» дастаткова разнародныя групы.

Які сацыяльны састаў навастворaных суб'ектаў палітычнай сістэмы нашага грамадства?

Вядома, што некаторыя палітычныя партыі і аб'яднанні цягнуцца да таго або іншага канкрэтнага асяроддзя ў залежнасці ад дэкларыруемых мэт. Такія, напрыклад, Сялянскі саюз СССР, Марксісцкая рабочая партыя. У апошняй, паводле слоў яе лідэраў, з 7 тысяч зарэгістраваных членаў 80 працэнтаў складаюць рабочыя прамысловых прадпрыемстваў. Улічваючы, што гэта партыя імкнецца да дыктатуры пралетарыяту як сродку пабудовы сацыялізму, не прыходзіцца чакаць прыходу ў яе рады сялянства. Касцяк цэнтральных і мясцовых арганізацый «Мемарыяла» складаюць, як правіла, людзі, рэпрэсіраваныя ў гады сталінізму, іх родныя, знаёмыя і г. д. На зусім канкрэтны сацыяльны слой (як правіла, малодшыя і сярэднія афіцэры запасу) арыентуецца «Шчыт», арганізацыйна ўваходзячы ў ДПР. Пераважная большасць членаў КАС і іншых груп анархістаў — студэнты ці ўчарашнія студэнты. У большасці іншых арганізацый «дэмакратаў» састаў надзвычай стракаты, але аснова, ядро амаль усіх іх, як правіла, сярэдні слой інтэлігенцыі: выкладчыкі, навуковыя работнікі, медыкі і г. д. Гэта адзін з парадоксаў сацыяльнага саставу «дэмакратычных» сіл: яны рэкрутуюцца галоўным чынам з тых слаёў, якія менш за іншыя прыстасаваны да ўмоў рынку. І нягледзячы на гэта, менавіта яны складаюць лагер яго найбольш радыкальных прыхільнікаў, якія патрабуюць неадкладнага пераходу да яго.

**К. ГРЫГОР'ЕЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

(Працяг. Пачатак у № 96).

(Заканчэнне будзе).

# ХЛЕБ НА ЖАНОЧЫХ ПЛЯЧАХ,

## або Дакуль будуць пакутаваць дзяржынскія хлебапёкі на сваім старым прадпрыемстве?

### Патрабуе вырашэння

Вось яны стаяць з боханамі духмянага гарачага хлеба, якія толькі што дасталі з пячэй. Твары на нейкі момант пасвятлелі, вусны кранула ўсмешка. Удаўся хлябок на славу! Пышны, лёгкі, з залацістай скарынкай. Яшчэ б! Толькі крыху больш месяца, як пачалі выпякаць новы гатунак — «барысаўскі» з кменам.

Але ў вопытных майстроў — начальніка цэха Ганны Вайцяховіч, майстра Ганны Федарака і цестамеса Яўгеніі Чэрнік, з якімі мы гутарым, на душы зусім не светла. Калектыў тут у асноўным жаночы, а работа, якую яны выконваюць, далёка не пад сілу нават дужым мужчынам. Ды і ўмовы працы не ідэальныя — прадпрыемству ўжо больш за трыццаць гадоў.

— Але мы — людзі вынослівыя, нібы тыя працаўніцы-мурашы, — не губляе аптымізму Г. Вайцяховіч.

— Шкада мне нашых сціплых жанчын-хлебапёкаў, — шчыра прызнаецца дырэктар завода Яўген Валянцінавіч Аляксееў, які прысутнічае пры нашай размове. — Такую ношу на сябе ўзвалілі. Скажыце, вы адстаялі б на нагах змену ў гарачым цэху? Не. А яны вытрымліваюць. За што мы ім вельмі ўдзячныя.

Хлеб на жаночых плячах... Менавіта так хочацца сказаць пра дзяржынскіх хлебапёкаў. З 77 чалавек, што працуюць тут, большасць жанчыны. Мужчыны ж у асноўным выконваюць абавязкі хто слесара, хто электрыка, хто грузчыка. А ля пячэй, катлоў з цестам «чаруюць» толькі асобы слабага полу. У любой іншай краіне на вашым месцы ўжо даўно стаялі б аўтаматы-робаты, аўтаматычныя лініі, начыненыя электронікай. А мы з-за сваёй беднасці-галечы бязлітасна эксплуатуем жаночыя рукі.

Нібы перахапіўшы гэту думку, Я. Аляксееў кажа:

— Пяць гадоў тут працую, і ўвесь гэты час мяне мучыць думка, як аблегчыць працу жанчын-хлебапёкаў. Пара ўжо, нарэшце, стварыць для іх такія ўмовы, пры якіх кожная магла б на сябе часцей у люстэрка глянуць і сям'і больш увагі ўдзяліць...

Трэба аддаць належнае дырэктару хлебазавода, які самакрытычна ставіцца да праблемы жаночай працы на вытворчасці. У сваім калектыве, дарэчы, ён даволі шмат робіць для сваіх працаўніц, ідзе ім насустрач у чым толькі можа. Перш-наперш тут, нягледзячы на вытворчыя і фінансавыя праблемы, знайшлі магчымасць у два разы павысіць людзям аплату за работу ў вячэрнія і начныя змены, на 20 працэнтаў узняць здзельныя расцэнкі, а размер прэмій — да 40 працэнтаў.

Кіраўніцтва хлебазавода стараецца вырашаць многія сацыяльныя пытанні. Летась, напрыклад, пяць сем'яў хлебапёкаў атрымалі жыллё, у чарзе цяпер толькі 9 чалавек. І сёлета калектыву абяцаюць выдзеліць дзве кватэры. Немалаважна і тое, што для ўсіх рабочых арганізавана гарачае харчаванне, якое дастаўляецца са сталовых аб'яднання грамадскага харчавання. Кожную восень усе члены калектыву забяспечваюцца бульбай, капустай, морквай. Каб хоць па святах атаварыць рабочых мясам, арганізавалі падсобную гаспадарку, гадуюць свіней. Сёлета для задавальнення патрэб у агародніне пабудавалі сваю цяпліцу.

— Але тое, што мы зрабілі для аблягчэння працы жанчын, — мізэр,—лічыць Я. Аляксееў. — З нашымі кадрамі ды вопытам мы маглі б выпускаць хлебабулачнай і безалкагольнай прадукцыі ўдвая больш, каб працавалі на новым заводзе, у лепшых умовах.

Так, сваё далейшае існаванне пры рыначных адносінах калектыў не ўяўляе без новага прадпрыемства. На дзеючым хлебазаводзе, які ледзь дыхае, наўрад ці ўдасца ўтрымацца на плаву. Але наколькі рэальная і блізкая перспектыва будаўніцтва новых заводскіх карпусоў?

— У нас ужо ёсць праектна-каштарысная дакументацыя. Вырашана пытанне і з фінансаваннем будаўніцтва на 4,5 мільёна рублёў (праўда, у старых цэнах), — тлумачыць Яўген Валянцінавіч. — Аднак уся праблема ўпіраецца ў падрадчыка. За ўзвядзенне завода магло б узяцца дзяржынскае БУ-42, каб паступіла каманда з будтрэста № 23, што ў Маладзечна. Але трэст настойліва адмаўляецца ўзводзіць наш аб'ект. Вось цяпер і ламаем галаву, ці ўключаць яго ў план будаўніцтва 1992 года? Вельмі спадзяёмся, што сваю настойлівасць у гэтай справе праявяць народныя дэпутаты двух Саветаў — гарадскога і раённага, гарком партыі.

Цяжка сёння сказаць, колькі яшчэ будуць пакутаваць хлебапёкі на сваім старым прадпрыемстве. Яны б жадалі хутчэй парадаваць дзяржынцаў багатым асартыментам хлебабулачных вырабаў, напіткаў. А пакуль прыходзіцца задавальняцца трыма гатункамі хлеба і двума — напіткаў. Пры ўсім жаданні больш як 22 тоны ў суткі хлебапёкі не могуць выдаць з дзвюх старэнькіх пячэй. Таму на патрэбы горада ледзь выкройваюць яго 4 тоны замест 10—12, а астатні ідзе ў сельскія магазіны. А калі раптам мінскія хлебазаводы адмовяцца пастаўляць у Дзяржынск хлеб і муку, што мела ўжо месца ў лістападзе—снежні мінулага года, зноў не пазбегнуць незадаволенасці людзей, вялікіх чэргаў.

— Хіба мы абмежаваліся б выпускам 500 дэкалітраў напіткаў у суткі, каб не стрымлівала шклатара? — зноў задае сабе і нам пытанне дырэктар. — А іншы раз можам выдаць толькі 200 дэкалітраў. І гэта ў той час, калі на парозе лета і адчуваецца такая вострая патрэба ў напітку! Крыўдна, але без пустых бутэлек мы бездапаможныя...

Не хацелася б на гэтай песімістычнай ноце заканчваць свой невясёлы расказ пра калектыў дзяржынскіх хлебапёкаў. На жаль, такое ўжо наша сённяшняе жыццё, у якім больш праблем, чым радасці...

**М. ПРАЖЭНІК.**
г. Дзяржынск.

## Газета выступіла. Што зроблена?

# «Прыварак» на ікры»

**Пад такім загалоўкам («Звязда», № 66) быў апублікаваны матэрыял, у якім расказвалася, што пасля таго, як мінуў тэрмін рэалізацыі ласасёвай ікры, яе ў Гомелі прадавалі па моцна завышанай цане.**

**На выступленне газеты рэагаванне ў рэдакцыю даслаў дырэктар Гомельскай аптовай рыбнай гасразліковай базы С. ВАРАБ'ЁЎ. Вось што ён піша:**

— Неабходна адзначыць, што ласасёвая ікра паступіла на нашу базу ўжо з пратэрмінаваным часам рэалізацыі.

У сувязі з гэтым у дзень прыёмкі адразу ж быў запрошаны акт на падаўжэнне тэрміну рэалізацыі ад Мінскага рыбнага халадзільніка. Але акт своечасова атрыманы не быў, і камісіяй Гомельскай рыббазы ў адпаведнасці з пісьмом Мінрыбгаса СССР была праведзена праверка якасці паступіўшай ікры. Пры гэтым выявілася, што ГОСТ 7631—85 парушаны не быў, на што ўказвалася ў артыкуле. З улікам якаснага стану ікры камісія вызначыла канкрэтны тэрмін захоўвання ўказанай партыі ікры.

Што датычыць цаны, то Гомельскай рыббазе не дадзена права самастойна ўстанаўліваць цэны на гэту прадукцыю. У даным выпадку работнікі базы кіраваліся тэлеграмай № 4422 ад 15.11.90 г. Мінрыбгаса СССР і прэйскурантам, атрыманым ад Белрыбпрамзбыта, дзе быў указаны павышаючы каэфіцыент «6», а не «5», як у пастанове Саўміна СССР.

Лічу, што пры правядзенні акцый, звязаных з пераацэнкай прадукцыі, спрэчныя пытанні павінны ўзгадняцца на саюзным і рэспубліканскім узроўнях, а да непасрэдных выканаўцаў даводзіцца вывераныя і дакладныя цыркуляры. У даным выпадку ў выніку супярэчлівых указанняў вышэйстаячых органаў панеслі страты як пакупнікі, так і сама рыббаза ў выглядзе штрафаў.

